**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№52 (716) 26 снежня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





### Гарадоцкі раён

# На валаску ад гібелі

■ Чэслаў Якубовіч

**У гэтым годзе ў снежні беларусы перажылі першы моцны снегапад, ураганныя ветры, але сапраўдных зімовых халадоў доўга не было.**

Людзям жа не церпіцца выйсці прагуляцца на першы лёд, хоць пры таўшчыні лядовага покрыва меней 7 см – гэта небяспечна для жыцця. Аднак пажылы 61-гадовы жыхар Гарадка днямі вырашыў, што яго такія правілы бяспекі не датычаць. Ён у той зімовы дзень парыбачыў, а, вяртаючыся дамоў, вырашыў дайсці хутчэй і пайшоў праміком на возеры Лугавое, што ў райцэнтры. Як і патрэбна было адбыцца, неўзабаве пенсіянер праваліўся пад тонкі лёд. Гэта заўважыў мясцовы жыхар і кінуўся дапамагчы земляку, але таксама апынуўся ў сцюдзёнай вадзе. На шчасце, крыкі ўжо двух пацярпелых аб дапамозе пачуў прафесіянал, вадзіцель мясцовага райаддзела МНС Алег Карака, які жыве паблізу вадаёма. Спрактыкаваны прапаршчык унутранай службы ведаў як дзейнічаць і з дапамогай вяроўкі з даской ён выцягнуў рыбака з ледзяной пасткі. Неўзабаве машына "хуткай дапамогі" забрала пацярпелага ў бальніцу, каб не было ўскладненняў з-за моцнага пераахаладжэння арганізма. На месца здарэння прыбылі і выратавальнікі пажарнай часці №1 Гарадка і даставілі на бераг другога мужчыну. Смелы гараджанін меней правёў у палонцы і ад шпіталізацыі ў райбальніцу адмовіўся. Перад гэтым у раёне выратавальнікі дасталі з ледзянога палону мужчыну, які рыбачыў на лодцы на возеры і не заўважыў, як вада пераўтварылася ў лёд. Праз пару дзён няспраўная печ ледзь не стала прычынай гібелі яшчэ адной жыхаркі райцэнтра, яна атравілася прадуктамі гарэння ў сваім доме і патрапіла на лячэнне ў бальніцу. Як ні сумна, але менавіта Віцебшчына зараз "лідзіруе" ў краіне па колькасці тапельцаў і загінуўшых у агні на падпітку.

### Пастаўскі раён

# Намеры на паперы

■ Кастусь Александровіч

**Яшчэ ў пачатку года спецыялістам было відавочна, што спушчаныя зверху заданні па ўводзе ў эксплуатацыю на Віцебшчыне сёлета за кошт усіх крыніц фінансавання 600 тыс. кв. метраў жылля – нерэальныя і будуць правалены.**

У выніку ўсё так і атрымалася, а ў лепшым выпадку яго аб'ём у вобласці складзе толькі крыху больш паловы ад намечанага. Не пазбегнуў гэтых праблем і Пастаўскі раён, дзе планавалі пабудаваць два 40-кватэрныя жылыя дамы ў райцэнтры паблізу пагранічнага шпіталя пагранвойск. З горам-папалам да навагодніх свят тут пабудавалі толькі адзін з іх, а работы па добраўпарадкаванні тэрыторыі і афарбоўцы фасадаў праведуць з надыходам цяпла. Кватэры для засялення жыхароў другога дома будаўнікі здадуць наступнай вясной ці летам. Дарэчы, сёлета ў гэтым раёне ўпершыню не пабудавалі ніводнага жылога дома для калгаснікаў. З-за адсутнасці фінансавання толькі напрыканцы года аднавіліся будаўніча-мантажныя работы па ўзвядзенні новай вытворчасці на Пастаўскім льнозаводзе. У сферы будаўніцтва вынікі былі б зусім сціплымі, але даволі шмат жылля ўзвялі індывідуальныя забудоўшчыкі. У цэлым жа Пастаўшчына – не адзін такі праблемны рэгіён у вобласці, бо на больш позні тэрмін перанеслі яшчэ шэраг дамоў-даўгабудаў яшчэ ў Гарадку, Навалукомлі і ў самім абласным цэнтры, дзе жыллё намячалі здаць навасёлам мінулай вясной. Адной з прычын затрымкі стала недакамплектаванне поўнасцю 34 дамоў-даўгабудаў забудоўшчыкамі ў сувязі з ростам працэнтаў па крэдытах, але ад гэтага іншым сем'ям не лягчэй.

### Аршанскі раён

# Новы гмах не радуе

■ Станіслаў Раманчук

**Сталіцай прайшоўшага фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі "Дажынкі" Орша была яшчэ ў 2007 годзе.**

Да гэтага свята старажытны горад упрыгожылі абноўлены аўтавакзал, 4 новыя жылыя дамы, спорткомплекс, дзіцячы парк. Сур'ёзна папрыгажэў цэнтр. А вось мясцовай лядовай арэне не пашанцавала. Яе намецілі пабудаваць па ўмяшчальнасці самай вялікай у вобласці і адной з самых вялікіх у Беларусі. Намячалася здаць дарагакаштуючы аб'ект 3 гады назад, але сродкаў у бюджэце з кожным годам станавілася меней, бо прыбавілася праблем у эканоміцы. Пазней падставіла сваё плячо Беларуская чыгунка, аднак і сёлета ўжо тры разы пераносіліся тэрміны здачы Лядовага палаца ў эксплуатацыю. Не атрымалася перарэзаць чырвоную лентачку напрыканцы чэрвеня, калі аршанцы святкуюць Дзень свайго горада. Далей гараджане спадзяваліся, што палац адкрыюць падчас "Славянскага базару" і хоць бы на 7 лістапада. Аднак і ў снежні на гэтым грандыёзным аб'екце яшчэ працягваліся работы па ўнутранай аддзелцы памяшканняў. Сёлета, дарэчы, Аршанскі раён аб'яднаўся з горадам у адну адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку. Напярэдадні навагодніх свят, аб чым паведамілі "варожыя радыёгаласы", у райвыканкам запрасілі мясцовых прадпрымальнікаў, каб, па існуючай традыцыі, яны аказалі матэрыяльную падтрымку гораду. У канцы года, паўсюдна, бюджэтных сродкаў не хапае, а сёлета яшчэ ўвялі рэжым жорсткай эканоміі. Сам жа Аршанскі раён сёлета ў ліку самых адстаючых на Віцебшчыне па выкананні большасці прагнозных паказчыкаў года. Фінансісты ж зараз хапаюцца за галовы, як прафінансаваць дзейнасць новага гмаха, паколькі суткі эксплуатацыі стратных лядовых арэн значна меншых памераў дасягаюць ужо 10 млн. рублёў…

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Серада 25.12.13 | | | | Чацвер 26.12.13 | | | | Пятніца 27.12.13 | | | | Субота 28.12.13 | | | | Нд.29.12.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +3 | +3 | +3 | +2 | +3 | +3 | +4 | +4 | +3 | +5 | +5 | +6 | +6 | +6 | +6 | +6 | +6 | +4 | +5 |
| Ціск | 745 | 745 | 743 | 743 | 742 | 743 | 743 | 743 | 744 | 745 | 745 | 747 | 747 | 748 | 747 | 746 | 746 | 746 | 747 |
| Вільготнасць | 89 | 83 | 70 | 77 | 85 | 84 | 84 | 91 | 91 | 90 | 90 | 92 | 96 | 91 | 92 | 90 | 90 | 88 | 91 |
| Вецер м/сек | 7 Пд | 6 Пд | 8 Пд | 7 Пд | 8 Пд | 6 Пд | 7 Пд | 6 Пд | 7 Пд | 5 Пд | 6 Пд | 5 Пд | 6 Пд | 5 Пд | 6 Пд | 5 Пд | 7 Пд | 7 Пд | 5 Пд-З |

# Аб самым надзёненым

## НА ФОНЕ ЭКАНАМІЧНЫХ РОЗНАГАЛОССЯЎ З САЮЗНІКАМ РАСІЯ НАРОШЧВАЕ СВАЮ ВАЕННУЮ ГРУПОЎКУ Ў БЕЛАРУСІ

■ Аляксандр Цішкевіч

**Ужо некалькі тыдняў расійскія ваенныя сумесна са сваімі беларускімі калегамі нясуць баявыя дзяжурствы па ахове нашай і сваёй адначасова паветранай прасторы. Ужо гаварылася, што хутка расійскія лётчыкі задачы будуць выконваць і самастойна. Пакуль жа іх экіпажы прылятаць да нас будуць на месяц і потым мяняцца.**

Напрыканцы адыходзячага сёлетняга вельмі складанага, калі не сказаць правальнага ў эканоміцы, 2013 года прыйшло і шэраг значных навін ваеннай тэматыкі. У сярэдзіне снежня тысячы суайчыннікаў выехалі ў гарнізоны, каб стаць сведкамі ўрачыстай цырымоніі прынятця іх сынамі, братамі і каханымі хопцамі ваеннай прысягі. У гэты восеньскі прызыў амаль 12 тысяч беларускіх прызыўнікоў надзелі ваенную форму, каб прайсці абавязковы тэрмін тэрміновай службы і службы ў рэзерве. Даволі актыўным быў у гэтыя дні і кіраўнік дзяржавы, які з'яўляецца ў адпаведнасці з займаемай пасадай яшчэ і Вярхоўным Галоўнакамандуючым.

Прэзідэнт пасля месяца роздуму прызначыў прафесійнага ваеннага, генерал-маёра Аляксандра Мяжуева новым дзяржаўным сакратаром Савета бяспекі. Іншае рашэнне адправіць у адстаўку начальніка Генштаба Узброеных сіл 55-гадовага генерала Пятра Ціханоўскага стала крыху сенсацыйным. Справа ў тым, што гэтаму вайскоўцу толькі нядаўна прадоўжылі кантракт на праходжанне ваеннай службы - і раптам такое крутое піке ў армейскай кар'еры. Таксама беларускі лідар, як паведамілі айчынныя СМІ, яшчэ асабіста пабываў у двух гарнізонах, наведаў 61-ю знішчальную авіябазу, а потым і 5-ю асобную брыгаду спецпрызначэння сіл спецыяльных аперацый.

Таксама не засталося незаўважаным ужо і ў свеце і прыбыццё па паветры першага ваеннага звяна чатырох сучасных расійскіх самалётаў-знішчальнікаў Су-27. Мы ж, нагадаем, дагэтуль на сваёй зямлі мелі дзве буйныя расійскія ваенныя базы паблізу Ганцавіч (станцыя "Волга" папярэджання аб ракетным нападзенні) і Вілейкі па кантролі паветранай прасторы на заходнім накірунку і падтрыманні сувязі з расійскімі атамнымі падводнымі лодкамі. Гэта ў эканоміцы паміж саюзнікамі вечныя супярэчнасці, чацвёрты год ідзе балбатня па стварэнні сумеснага холдынга Росбелаўта ды і па нафце доўга не ўдавалася ўзгадніць і падпісаць баланс яе паставак у Беларусь на 2014 год.

На жаль, і ў наступным годзе верны саюзнік Крамля вымушаны будзе ўсю суму экспартных пошлін на нафтапрадукты пералічваць у расійскі бюджэт. Аднак пры гэтым эканамічныя прэферэнцыі з боку Расіі для нашай краіны адчувальныя і ўзамен за гэта суседка справядліва і ўжо рашуча нарошчвае сваю ваенную прысутнасць. Праз 19 гадоў паблізу Баранавіч зноў з'явіліся замежныя вайскоўцы са 105-й авіядывізіі Заходняй ваеннай акругі Расіі разам з прыляцеўшымі раней спецыялістамі па абслугоўванні гэтых самалётаў. Наш сусед можа сабе дазволіць многае, вось нават у Арктыцы расейцы вырашылі стварыць свой ваенны "ключавы стратэгічны рэгіён".

Магчымасці ж Беларусі цяпер значна больш сціплыя, няма сродкаў за што праводзіць пераасняшчэнне сваёй арміі. Гэта ж праўда, што большасць беларускіх ваенных самалётаў адлеталі свой рэсурс, іх патрэбна спісваць. Не можа сабе наша краіна дазволіць купіць у той жа Расіі хоць бы адзін полк новых баявых самалётаў. Стратэгічная залежнасць у гэтым пытанні ад Крамля поўная, без яго дапамогі выканаць праграму будаўніцтва і развіцця Узброеных Сіл Беларусі проста нерэальна. Прэзідэнт у Асіповічах нават сабе задаў пытанне, што, магчыма, і не трэба мець столькі механізаваных ваенных часцей, колькі зараз?

Кіраўнік дзяржавы заявіў там, што больш перспектыўным развіваць вось такія сілы спецыяльных аперацый. Аднак цана пытання вялікая, бо на парадак дня выходзіць, каб і ў арміі ва ўсім быў парадак, а вось у большасці часцей неабходна актыўней праводзіць іх тэхнічнае пераўзбраенне. Пакуль жа ўжо некалькі тыдняў расійскія ваенныя сумесна са сваімі беларускімі калегамі нясуць баявыя дзяжурствы па ахове нашай і сваёй адначасова паветранай прасторы. Дзейнічае, як вядома, і Адзіная рэгіянальная сістэма войск супрацьпаветранай абароны Беларусі і Расіі. Ужо гаварылася, што неўзабаве расійскія лётчыкі свае задачы будуць выконваць і самастойна. Пакуль жа іх экіпажы прылятаць да нас будуць на месяц і потым мяняцца.

Тым часам армія жыве сваім жыццём, а народ сваім, вырашаючы мірныя задачы, а ў нас намецілі маштабную рэарганізацыю будаўнічай галіны. Ужо і прынялі сціплы, па сродках рэспубліканскі бюджэт на 2014 год. Ужо можна казаць, што і наступны год будзе складаным, бо, як заяўлена, намечана аптымізацыя (лічы ліквідацыя) структуры і колькасці бюджэтных арганізацый. У глыбінцы найболей могуць пачацца такія балючыя працэсы, якія закрануць кожны пяты вясковы клуб, бібліятэку, ФАП ды малакамплектныя школ з колькасцю вучняў меней 25 чалавек можа болей не застацца. А вось ваенным у Беларусі выдзелілі на наступны год у бюджэце 8,1 трлн. рублёў (1,2 % ВУП), на мадэрнізацыю воінскіх часцей накіроўваецца 1,4 трыльёна.

## Дзень за днём

**У выніку падзення экспарту ў студзені-кастрычніку сёлета Беларусь недаатрымала 10 млрд. USD даходу, валавы знешні доўг дасягнуў 37 млрд. Беларусам паабяцалі апошні жылы дом-даўгабуд завяршыць узводзіць летам 2014 года. Крэдыты жадаючым будавацца ў наступным годзе будуць пад 16 % гадавых. Найбольш незавершаных дамоў-даўгабудаў засталося ў сталіцы і на Міншчыне, у Віцебскай вобласці са снежня на будучы год перанеслі здачу 17 шматпавярховак. За язду без тэхагляду штрафы для беларусаў неўзабаве вырастуць з 2 да 5 базавых велічынь. Падчас навагодняй дабрачыннай акцыі "Нашы дзеці" госці з падарункамі для 15 тысяч дзетак пабываюць у 257 дзіцячых сацыяльных установах краіны.**

# Важнейшыя навіны свету

**Канада.** МЗС краіны пачаў падрыхтоўку афіцыйнай заяўкі ў ААН наконт сваіх тэрытарыяльных прэтэнзій на Паўночны полюс, там багата карысных выкапняў.

**Сірыя.** Эксперты ААН пацвердзілі, што баявая хімічная зброя выкарыстоўвалася ў ахопленай грамадзянскай вайной краіне мінімум 5 разоў, загінула шмат салдат і людзей.

**ЗША.** На палігоне Нью-Мексіка ваенныя правялі паспяховыя выпрабаванні навейшага баявога лазера магутнасцю 10 кВт супраць паветраных цэляў і ўсе іх знішчылі.

**Германія.** Нямецкія СМІ паведамілі, што Расія размясціла ў Калінінградскай вобласці ўздоўж граніцы з Літвой 10 мабільных ракетнаядзерных комплексаў "Іскандэр".

**Расія.** Урад РФ спісаў Кубе 29 млрд. $ доўгу перад неіснуючым СССР пры ўмове, што кубінцы заплоцяць 3,2 мільярда на працягу 10 бліжэйшых гадоў, у іх валюты не хапае.

**Украіна.** Прэм'ер-міністр М. Азараў пацвердзіў, што ніякіх пагадненняў паміж краінай і Мытным саюзам не будзе, Украіна просіць у ЕС 20 млрд. еўра фінансавай падтрымкі.

**Аўстралія.** Краіна вывела апошнія свае войскі з 25-тысячнага кантыгента ў Афганістане і закрыла буйнейшую ваенную базу ў правінцыі Урузган, дзе жыццё людзей палепшылася.

**Польшча.** Урад краіны выдзеліў сродкі для аплаты навучання 50 украінскіх студэнтаў у выпадку магчымага іх адлічэння з ВНУ за ўдзел у акцыях пратэсту на Майдане ў Кіеве.

**Карэя.** У порце Пусан інспектары Міжнароднай федэрацыі транспартных рабочых затрымалі расійскі цеплаход "Саргам" за даўгі па зарплаце ўкраінскім маракам.

**КНДР.** Па загадзе новага лідара Кім Чэн Ына дзяржканалы паказалі па тэлебачанні арышт на пасяджэнні палітбюро ППК дзядзькі, 67-гадовага Чан Сон Тхэка, яго пакаралі смерцю.

**Кітай.** Кампанія Samsung, каб не плаціць высокія заробкі рабочым, вырашыла перанесці свой завод па выпуску смартфонаў у В'етнам услед за канкурэнтамі Nokia і Intel.

**Швецыя.** Шведы расчараваліся ў сваёй мадэлі адукацыі, бо чвэрць дзяцей вучыліся ў прыватных школах, яны фінансаваліся з дзяржбюджэту і многія з іх збанкрутавалі.

**Ватыкан.** Папулярны амерыканскі штотыднёвы часопіс Time назваў Чалавека года-2013 Папу Рымскага Францішка, з ім звязваюць надзеі на пазітыўныя змены ў хрысціянстве.

**Расія.** Арыштаванага ў Беларусі гендырэктара "Уралкалія" У. Баўмгертнера пасля зноў зацвярджэння на высокай пасадзе змясцілі ў Маскве пад дамашні арышт у апартаментах.

**Францыя.** Група высокапастаўленых палітыкаў на чале з прэзідэнтам Ф. Аляндам рашылі байкатаваць зімовую Алімпіяду ў Сочы ўслед за калегамі з Германіі, а Англія супраць.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Мінімум раз у паўгода, як заявіў А. Лукашэнка, стануць праводзіць буйныя рэспубліканскія нарады, аналагі з Пленумамі ЦК КПСС па праблемах розных галін.

**Смалявічы.** Не атрымалася здаць навасёлам напрыканцы года абяцаны першы жылы дом для мінчан, можа атрымаецца летам, адсюль да сталічнай кальцавой дарогі 39 км.

**Магілёў.** Казахская кампанія "КазМунайГаз" адмовілася па "Магілёўхімвалакне" ўзводзіць новую вытворчасць па выпуску тэрафтэлевых кіслот, бо ёй гэта не зусім выгадна.

**Астравец.** Мінэнерга РБ паведаміла, што пачаўся ў Валгадонску выраб рэактара для Беларускай АЭС, буйны груз даставяць сюды водным транспартам па Дняпры і Бярэзіне.

**Рэчыца.** Міліцыя затрымала 20-гадовую дзяўчыну-касіра СХП "Дземіхаўскі", студэнтку завочніцу БСГА за крадзеж 100 мільёнаў рублёў заробкаў працаўнікоў гаспадаркі.

**Мінск.** Кіраўнік Беларускай праваслаўнай царквы мітрапаліт, Патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт заявіў, што Беларуская праваслаўная царква выступае за адмену смяротнага пакарання ў краіне.

**Крупкі.** Пры падборы кандыдатур на пасаду першага намесніка старшыні райвыканкама, начальніка райсельгасхарча адмовіліся ад яе нават 9 спецыялістаў сельскай гаспадаркі.

**Шчучын.** Самаму маладому кіраўніку раёна ў Беларусі С. Лажэчніку пагражае да 5 гадоў зняволення за нібыта халатнасць, калі ён тут кіраваў мясцовым масласырзаводам.

**Баранавічы.** На аэрадроме 61-й знішчальнай авіябазы сумеснае баявое дзяжурства з беларусамі пачалі несці і 4 расійскія мадэрнізіраваныя самалёты Су-27П войск СПА Расіі.

**Гродна.** Адна з вучаніц школ горада трапіла ў рэанімацыю гарбальніцы з прыкметамі атраўлення пасля ўжывання насення дурман-травы, якую яна знайшла ў двары дома.

**Брэст.** Дзве жыхаркі вобласці-гастарбайтэры ў Расіі падчапілі ў інтэрнаце горада Падольска Маскоўскай вобласці брушны тыф, на Брэстчыне інфекцыі не было 14 гадоў.

**Магілёў.** На пасяджэнні абласнога суда былы мэр Гомеля Віктар Пілілец заявіў, што не лічыць сябе вінаватым і абверг усе абвінавачванні па продажы знаёмым і сваякам жылля.

**Пінск.** У рэанімацыі гарадской бальніцы памёр вучань 7 класа, яму стала дрэнна вечарам у адным з магазінаў горада, у хлопчыка не было бацькоў, жыў ён з бабуляй і дзядулем.

**Мядзель.** Першы ў Беларусі этнакультурны комплекс-этнічная вёска з 10 драўляных сядзіб і 2 дамамі мяшчан, млынам, рынкам прыме турыстаў у наступным годзе.

**Дразды.** Журналісты адшукалі побач з новым катэджам віцэ-прэм'ера П. Пракаповіча шыкоўны асабняк, які будуе сабе беглы прэзідэнт Кыргыстана ў вышуку К. Бакіеў.

## Сетка платных дарог Беларусі з 1 студзеня пашырыцца на 118 км




■ **Таццяна Іванюк , БЕЛТА**

**Сетка платных дарог у Беларусі з 1 студзеня 2014 года павялічыцца на 118 км.**

Аб гэтым БЕЛТА паведамілі ў прэс - службе нацыянальнай электроннай сістэмы збору платы за праезд па аўтадарозе краіны BelToll. Спецыялісты ўдакладнілі, што на другім этапе стварэння BelToll зборы за праезд пачнуць спаганяць на ўчастку магістралі М- 4 Мінск - Магілёў з 74- га па 192- ы км. Тым самым агульная працягласць сеткі платных аўтадарог у краіне дасягне 933 км. Разам з устаноўкай 11 дадатковых станцый збору і кантролю аплаты, другі этап прадугледжвае таксама адкрыццё двух новых пунктаў абслугоўвання карыстальнікаў платных дарог з кругласутачным рэжымам працы. Першы з іх будзе працаваць у Мінску у асобным павільёне па Партызанскім праспекце ( на выездзе з горада ), другі адкрыюць у вёсцы Натальеўск (Мінская вобл., Чэрвеньскі р -н ).У прэс - службе адзначылі, што для зручнасці карыстальнікаў зменяць сваё месцазнаходжанне некаторыя дзеючыя пункты абслугоўвання кліентаў у Магілёве і Беразіно. «Першыя чатыры месяцы эксплуатацыі сістэмы былі досыць напружанымі, але дзякуючы сумесным намаганням каманды аператара сістэмы і прадстаўнікоў дзяржаўных органаў, адказных за яе функцыянаванне, усе планаваныя вынікі былі дасягнуты », - рэзюмаваў Сяргей Буры, менеджар па сувязях з грамадскасцю аператара сістэмы BelToll ЗТАА «Капш Тэлематыка Сервисиз». BelToll - гэта электронная сістэма збору платы за праезд, якая заснавана на выкарыстанні тэхналогіі спецыялізаванай радыёсувязі на кароткіх адлегласцях, якая дазваляе спаганяць зборы з карыстальнікаў дарогі без прыпынку транспартных сродкаў. Яе камерцыйная эксплуатацыя пачата ў Беларусі 1 жніўня бягучага года. У цяперашні час сістэма ахоплівае 815 км беларускіх дарог. Работы па пашырэнні сеткі вядуцца на ўчастках рэспубліканскіх аўтамагістраляў М4 (Мінск - Магілёў) і М5 (Мінск - Гомель). У адпаведнасці з указам № 426 ад дарожных збораў вызваляюцца транспартныя сродкі, зарэгістраваныя на тэрыторыі краін Мытнага саюза, з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай не больш за 3,5 т. Бясплатна могуць праязджаць мапеды і матацыклы, зарэгістраваныя ў Беларусі, колавыя трактары і самаходныя машыны, транспартныя сродкі аператыўнага прызначэння, а таксама тыя, якія выкарыстоўваюцца ў мэтах забеспячэння абароназдольнасці і правапарадку. Не трэба плаціць кіроўцам маршрутак для гарадскіх перавозак пасажыраў, аўтамабіляў, якія ўжываюцца для аказання медпамогі, ліквідацыі надзвычайных сітуацый або перавозак грузаў гуманітарнай дапамогі насельніцтву Беларусі і іншых краін.Уладальнікам электроннай сістэмы збору платы за праезд па аўтатрасах з'яўляецца ДУ «Белаўтастрада». Кіруе працай BelToll ў Беларусі кампанія-аператар ЗТАА «Капш Тэлематыка Сервісіз», у задачы якой уваходзіць забеспячэнне належнага функцыянавання сістэмы і ажыццяўленне ўсіх неабходных функцый, звязаных з яе дзейнасцю. Кантралюе спагнанне збораў на платных аўтамагістралях ГУ «Транспартная інспекцыя».

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Полацк.** Маладой палачанцы ўрачы сталічнага РНПЦ атарыналарынгалогіі зрабілі ўнікальную аперацыю, імплантавалі новае вуха з сіліконавым пратэзам, яна стала чуць.

**Віцебск.** Побач з Шагалаўскім кварталам намецілі пабудаваць невялікі гасцявы дом "У Марка і Бэллы" з барам, кафэ "Чайная лаўка" і рэстаранам беларускай кухні.

**Орша.** На мясцовым мясакамбінаце па праграме мадэрнізацыі завяршылі ўзвядзенне цэха па вытворчасці дзіцячага харчавання магутнасцю 12 млн. умоўных бляшанак штогод.

**Глыбокае**. Улады правялі конкурс на лепшы лагатып і слоган, прысвечаны 600-гадоваму юбілею старажытнага горада, свята будзе шырока адзначацца ў наступным годзе.

**Паставы.** Прыватны цэнтр турысцкіх паслуг не знайшоў паразумення з уладамі і праз 8 гадоў ледзь не спыніў свой вельмі ўдалы праект "У госці на сядзібу Зюзі Паазерскага".

**Багушэўск.** Двое жыхароў гарадскога пасёлка паехалі ў чэрвені на заробкі ў Расію, але трапілі на цагельны завод у Дагестане, дзе іх трымалі як рабоў, забралі пашпарты, дрэнна кармілі.

**Віцебск.** На тэрыторыі СЭЗ "Віцебск" зарэгістраваліся яшчэ 2 рэзідэнты: ЗАТ "Інгрыда-Нафта" з удзелам латвійскага капітала, у Оршы італьянцы займуцца гідраўлікай машын.

**Дуброўна.** У вёсцы Кобызева на пажары з-за курэння на падпітку загінулі маці з непрацуючым сынам, якія абое спіліся, за адны суткі ў агні ў вобласці было 7 трупаў.

**Ушачы.** У райцэнтры пачалі ўзводзіць ФАК коштам 80 мільярдаў рублёў з плавальным басейнам, вялікай гульнявой залай, саўнай, сёлета асвоена 10 мільярдаў, яго ўвод у 2015 годзе.

**Полацк.** З 26 снежня па 7 студзеня будучага года больш як 20 устаноў культуры горада і раёна сталі Гасцёўнямі Дзеда Мароза, падрыхтавалі шмат святочных мерапрыемстваў.

**Бешанковічы.** Жыхар райцэнтра купіў сабе дом, які стаяў пусты 8 гадоў пасля смерці гаспадара, і падчас рамонту знайшоў у ім скелет трупа, вядзецца следства па справе.

**Сянно.** Паштальён з вёскі Багданава Алена Бельская быццам у казцы "12 месяцаў" убачыла і сфатаграфавала на мабільнік пасярод заснежанага леса ярка-сінія кветкі.

**Браслаў.** Напярэдадні 60-годдзя вядомага мэтра музыкі Андрэя Макарэвіча ў райцэнтры правялі фестываль песні сярод моладзі "Я спяваю", шмат было песень з яго рэпертуару.

**Віцебск.** На базе акадэміі ветмедыцыны прайшла першая рэгіянальная выстава-ярмарка "100 ідэй для Беларусі", у фінал праекта былі дапушчаны 8 распрацовак моладзі.

**Наваполацк.** Галоўным трэнерам ФК "Нафтан" зацвердзілі Валерыя Стрыпейкіса, які ў цяжкай сітуацыі дапамог камандзе захаваць прапіску ў эліце беларускага футбола.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

*Тонкі лёд уяўляе вялікую небяспеку для жыцця, аднак знаходзяцца смельчакі, якія аддаюць перавагу выпрабоўваць свой лёс.*

# Асцярожна, тонкі лёд!

**Андрэй Андрыеўскі**, *інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі,*
**Анастасія Карчэўская**, *слухач 5-го курса ГІІ*

Нягледзячы на шматлікія папярэджанні пра тое, што выхад на тонкі лёд уяўляе вялікую небяспеку для жыцця, знаходзяцца смельчакі, якія аддаюць перавагу выпрабоўваць лёс. Хоць чалавек, які апынуўся ў дадзены час у вадзе, можа загінуць не толькі ў выніку ўтаплення, але і ад пераахаладжэння арганізма, якое настае ўжо праз 10 хвілінаў пасля траплення ў халодную ваду.

Лёд на вадаёмах – гэта заўсёды зона падвышанай рызыкі. Таму, трэба ведаць, што бяспечна можна ісці на лёд, калі яго таўшчыня не меней 7 сантыметраў для аднаго чалавека і 10-12 сантыметраў – для групы людзей. Вельмі небяспечна хадзіць па лёдзе, які пакрыты снегам. Снег, які выпаў на лёд, які толькі што ўтварыўся, апроч таго, што маскіруе палонкі, яшчэ і запавольвае рост ледзянога полагу.

**Бяспечна можна ісці на лёд, калі яго таўшчыня не меней 7 см для аднаго чалавека і 10-12 см – для групы людзей.**

Трываласць лёду можна вызначыць візуальна: лёд блакітнага колеру – трывалы, а белага колеру – у 2 разы меней трывалы. Шэры, матавабелы ці з жаўтлявым адценнем лёд звычайна порысты і ненадзейны. Такі лёд абвальваецца без папераджальнага патрэсквання.

Памятайце, што лёд больш тонкі ў месцах плыні, у багністых берагоў, у месцах выйсця падводных крыніцаў, пад мастамі, у вузкіх пратоках, паблізу месцаў скіду ў вадаёмы цёплых і гарачых вод прамысловых і камунальных прадпрыемстваў. У месцах, дзе расце чарот, трыснёг і іншыя водныя расліны, лёд больш тонкі.

Не рэкамендуецца выходзіць на лёд, калі вы адзін і ў межах бачнасці няма нікога, хто змог бы прыйсці на дапамогу. Ні ў якім разе нельга выходзіць на лёд у цёмны час сутак і пры дрэннай бачнасці (смуга, снегапад, дождж). Таксама нельга выходзіць на лёд у стане алкагольнага ап'янення – такія людзі неадэкватна рэагуюць на небяспеку і ў выпадку надзвычайнай сітуацыі становяцца бездапаможнымі.

Нельга ісці на паверхню вадаёма, калі яна друзлая, ці дзесьці праступае вада. Таксама забараняецца збірацца на лёдзе вялікімі групамі, а пры пераходзе праз вадаём трэба выконваць адлегласць адзін ад аднаго ў 5-6 метраў. Трываласць лёду правяраецца не ўдарам нагі, а дужай палкай. Калі лёд пад вамі станавіцца танчэй і пачынае трэскацца, акуратна адыходзьце па сваім жа следзе да берага слізгальнымі крокамі, не адрываючы ног ад лёду і расставіўшы іх на шырыні плячэй. Нельга бегчы па лёдзе – гэта можа справакаваць хуткі раскол паверхні.

Рыбакам рэкамендуецца выходзіць на лёд у выратавальных камізэльках. У мэтах бяспекі неабходна мець з сабой вяроўку, да аднаго канца якой прымацаваны якінебудзь груз, а іншы канец з завесай знаходзіцца на поясе. У выпадку правалу пад лёд такое прыстасаванне дапаможа рыбаку даўжэй утрымацца на вадзе, а выратавальнікам – хутчэй выцягнуць яго з палонкі.

Каб дапамагчы чалавеку, які праваліўся пад лёд, трэба кінуць яму пояс, шалік ці палку, наблізіўшыся да правалу на 3-4 метры. Набліжацца да пралома можна толькі паўзком. Аказаць дапамогу пацярпеламу трэба хутчэй, паколькі чалавеку, які патрапіў пад лёд, пагражае пераахаладжэнне. Каб сагрэць пацярпелага, неабходна зняць з яго мокрае адзенне, расцерці цела, даць сухую бялізну і гарачае пітво.

У мэтах забеспячэння ўласнай бяспекі Глыбоцкі РАНС заклікае грамадзян быць максімальна асцярожнымі на вадаёмах! У пазбяганне трагічных наступстваў, бацькам і асобам, адказным за выхаванне дзяцей, неабходна выключыць магчымасць іх знаходжання на лёдзе, паблізу рэк і азёраў, і правесці тлумачальныя гутаркі пра выкананне правіл бяспечных паводзін.



*Віншуем з Новым 2014 годам!*



**Пераднавагодняя экскурсія па Глыбокім. Так сустракаюць Новы год Глыбоцкія Электрычныя Сеткі.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

## З 25 снежня ўстанаўліваецца забарона на лоўлю мянтуза



**Дзеля павелічэння папуляцыі мянтуза ў рэках і азёрах штогод з 25 снежня і да 28 лютага ўстанаўліваецца забарона на яго лоўлю.**

З 25 снежня ўстанаўліваецца забарона на лоўлю мянтуза.

Нерастуе гэта рыба з канца снежня да лютага, калі тэмпература вады пад лёдам складае 1-3 градусы.

У перыяд забароны павялічваюцца штрафныя санкцыі.

Акрамя штрафу, давядзецца кампенсаваць шкоду, нанесеную рыбным багаццям. Кожны злоўлены мянтуз, незалежна ад памеру, будзе каштаваць парушальніку дзевяць базавых велічынь за адну рыбіну.

## Тэрытарыяльныя выбаркамы па мясцовых выбарах будуць сфарміраваны да 27 снежня

**Тэрытарыяльныя выбаркамы па мясцовых выбарах будуць сфарміраваны да 27 снежня, паведаміла старшыня Цэнтрвыбаркама Беларусі Лідзія Ярмошына ў эфіры тэлеканала «СТБ», паведамляе БЕЛТА.**

Лідзія Ярмошына растлумачыла, што да 24 снежня будзе праходзіць вылучэнне кандыдатаў у склад тэрытарыяльных выбаркамаў. Такіх камісій будзе 1 331. У цэлым выбары будуць забяспечваць каля 80 тыс. членаў выбаркамаў рознага ўзроўню.

Што датычыцца акруговых камісій, то іх неабходна сфарміраваць да 7 студзеня. Лідзія Ярмошына дадала, што з 12 студзеня па 10 лютага павінна адбыцца вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты. Іх можна вылучаць як праз збор подпісаў, так і ад калектываў. Арамя таго, тэрытарыяльныя падраздзяленні палітычных партый таксама могуць вылучаць кандыдатаў. Лідзія Ярмошына нагадала, што ўсяго ў Беларусі



зарэгістравана 15 партый. Пры гэтым рэспубліканскія органы партый у выбарах амаль не ўдзельнічаюць. «Яны, вядома, вызначаюць палітыку, але юрыдычна значных дзеянняў амаль не ажыццяўляюць», - растлумачыла старшыня ЦВК.

Як паведамлялася, выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў пройдуць 23 сакавіка 2014 года.

***БЕЛТА***

## Суадносіны міліцыі да насельніцтва ў Беларусі ў 6 разоў перавысілі ўзровень СССР

**На 100 тысяч насельніцтва ў Беларусі прыпадае 1442 супрацоўнікі Міністэрства ўнутраных спраў. Наша краіна стала лідарам па суадносінах ліку міліцыянтаў да астатняга насельніцтва.**

Пра гэта гаворыцца ў тлумачальных запісках да двух законапраектаў, зарэгістраваных у Вярхоўнай Радзе Украіне, піша kommersant.ua.

Пры гэтым сярэднесусветны паказчык складае 300 паліцыянтаў на 100 тысяч чалавек. ААН рэкамендуе лічбу ў 222 паліцыянты, а ў СССР было 214 міліцыянты на 100 тысяч насельніцтвы.

У тлумачальнай запісцы прыводзяцца лічбы па іншых краінах свету. Так, у Італіі на 100 тысяч насельніцтва прыпадае 552 паліцыянты, у Балгарыі — 442, у Чэхіі — 405, Францыі — 369, Польшчы — 264, у ЗША — 233. Пасля Беларусі найбольшыя суадносіны супрацоўнікаў МУС да насельніцтва зафіксаваныя ў Расіі — 976 чалавек. Найменшы еўрапейскі паказчык адзначаны ў Швецыі — 195-200 на 100 тысяч насельніцтва.

Ва Украіне цяпер 780 супрацоўнікаў на 100 тысяч насельніцтва. Гэтую лічбу прапануецца скараціць да 463 міліцыянтаў на 100 тысяч насельніцтва.

***kommersant.ua.***

## Вандал разбурыў 58 помнікаў у Камаях

**На могілках у вёсцы Камаі Пастаўскага раёна мясцовая жыхарка выявіла перакручаныя помнікі і паламаныя крыжы.**

Жанчына пабегла ў сельсавет, там выклікалі мясцовага ўчастковага. Ён устанавіў, што надмагіллі апаганены на 58 пахаваннях, паведамляе прэс-служба УУС Віцебскага аблвыканкама.

«След» прывёў участковых да 34-гадовага жыхара аграгарадка, які прыехаў з суседняй вобласці. Той пражываў адзін, ціхі, спакойны – камара не заб'е. Але ў гутарцы з яго суседзямі высвятлілася, што ў таго на рэлігійнай глебе скляліся неадэкватныя паводзіны. Выказваў незразумелыя пагрозы ў адносінах да крыжоў, помнікаў, ды і да рэлігіі таксама», – гаворыцца ў паведамленні.

Вандал затрыманы, яго чакае суд.

■ Уладзімір Скрабатун

*Адзін дзень з жыцця Глыбокага 7 лістапада 1943 года.*

# «Журботны, але спакойны лістападавы змрок акутаў цішынёю магілу героя»

Нават менш чым паўтара года існавання савецкай улады ў Глыбокім – з 17 верасня 1939 г па 22 чэрвеня 1941 г. хапіла, каб мясцовая моладзь, з прыходам немцаў, пачала масава ўступаць у Саюз Беларускай Моладзі (СБМ), а дарослыя ў – самаахову, паліцыю і Беларускую Краёвую Абарону. Гэтыя менш чым паўтара года савецкай улады засталіся незагойнай ранай на доўгія дзесяцігоддзі і нават да сённяшніх дзён.

З прыходам немцаў у Глыбокае была адчыненая беразвецкая турма НКУС. У ямах ляжалі сотні трупаў, ахвяраў НКУС. Сцены колішняга манастыра былі ў крыві, у нішах знаходзілі замураваныя трупы людзей. Хто былі гэтыя знішчаныя людзі? Настаўнікі, лекары, архітэктары, заможныя сяляне, члены кампартыі Заходняй Беларусі, мясцовыя землеўладальнікі, ляснічыя, колішнія паліцыянты… Усё Глыбокае прыйшло і ўбачыла гэтае пекла, некаторыя знаходзілі сярод трупаў сваіх сваякоў, забіралі на пахаванне. Акрамя гэтага, пад дзве тысячы вязняў былі пагнаныя калонай па Дарозе Смерці Беразвечча-Ула. Усіх іх паклалі з кулямётаў НКУСаўцы. Ілюзіі наконт савецкай улады ў глыбачанаў канчаткова зніклі.

Мне некаторыя скажуць: Навошта пра тое пісаць, рабіць паклёп на савецкую ўладу, савецкая ўлада была гуманнай, нікога не страляла… Не, трэба пісаць! Калі пра тое не пісаць, то тады мы не знойдзем адказу на пытанне: Чаму глыбачане ўспрынялі немцаў ледзьве як не вызваліцеляў і пайшлі з імі на супрацоўніцтва.

Зразумела, акупацыя Глыбокага немцамі – трагічная і крывавая старонка гісторыі нашага горада. Адначасова, у адзін і той самы дзень, у розных кутках горада, адбываліся жахлівыя падзеі: у Беразвечы, у канцлагеры, за калючым дротам мёрзлі ад сцюжы і мёрлі з гораду савецкія ваеннапалонныя, у іншым месцы расстрэльвалі нявінных жыхароў нашага горада толькі за тое, што яны былі яўрэі, а дзесьці ў іншым месцы падпольшчыкі друкавалі ўлёткі… А гэтым часам, на прыкасцельным пляцы, на дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі мог адбывацца паўтаратысячны антыбальшавіцкі жалобны мітынг глыбачанаў з нагоды пахавання Уладзіміра Жызнеўскага.

Нядаўні савецкі тэрор, з прыходам немцаў, толькі паспрыяў незалежніцкім настроям у беларускім грамадстве. Беларускія нацыяналісты хацелі скарыстаць гэты момант для адраджэння незалежнай беларускай дзяржавы. Больш таго, немцы не перашкаджалі, а нават спрыялі адкрыццю беларускіх школаў і вывучэнню сапраўднай гісторыі Беларусі.



Хлопцы СБМаўцы ва ўніформе.

Зразумела, у СБМ траплялі часам і выпадковыя людзі, якія воляй лёсу і абставінаў уступілі ў гэтую моладзевую арганізацыю, але большасць – свядома і ідэйна. Адзін з іх – Уладзімір Жызнеўскі. Ён загінуў ад партызанскай кулі. На яго ўрачыстае пахаванне выйшла паўтары тысячы жыхароў Глыбокага.

Далей мы скарыстаем гістарычныя дакументы, тагачасныя публікацыі, з захаваннем правапісу і стылістыкі арыгіналаў. Мы не будзем іх каментаваць. Толькі цытаваць. Няхай чытачы самі робяць высновы.

## ІНСПЭКЦЫЙНАЕ ПАДАРОЖЖА ШЭФА КІРАЎНІЧАГА ШТАБУ СБМ 5-26.XI.1943

*(Часопіс **«Жыве Беларусь!»**, №4-5, кастрычнік-лістапад 1943 г., стар. 29).*

Ад 5 да 26 лістапада 1943 шэф-праваднік М. Ганько адбыў трохтыднёвае інспэкцыйнае падарожжа па паўночна-заходніх акругах Беларусі. Ён чаргова спыняўся ў Глыбокім. Вялейцы, Вільні, Лідзе, Навагрудку і Маладэчне. Суправаджаў яго ягоны ад'ютант падправаднік У. Гарэлік.

### Глыбокае

Распачынаючы сваё інспэкцыйнае падарожжа, шэф-праваднік спыніўся ад 6 да 9 лістапада ў Глыбокім.

7 лістапада ён спаткаўся з моладздзю Глыбоцкае прагімназіі, зьвярнуўся да яе з сваім прывітальным словам і з захапленьнем слухаў ейныя песьні і глядзеў танцы.

А г. **$13^{00}$** адбылася жалобная ўрачыстасьць пахавінаў гэраічна загінутага ў змаганьні са сталінскімі бандытамі дружыновага Уладзімера Жызьнеўскага, які аддаў сваё 20-гадовае жыцьцё за Бацькаўшчыну. У пахавінах прынялі удзел прадстаўнікі мяйсцовых нямецкіх уладаў, дружына беларускага СС і каля 250 юначак і юнакоў ува ўніформах. Урачыстасьць сьцягнула каля паўтары тысячы мяйсцовага беларускага жыхарства, так што пахавіны юнака перайтварыліся ў грамадную дэманстрацыю, якая, супаўшы з угодкамі бальшавіцкае кастрычніцкае рэвалюцыі, была грандыёзным адказам беларусаў Глыбоччыны на бандыцкі тэрор і жыдабальшавіцкую хлусьлівую прапаганду.

– Жыве Беларусь! – быў гэты адказ, – бо ейная моладзь умее гэраічна змагацца і, калі трэба, – паміраць за Бацькаўшчыну.

Пасьля паніхіды у царкве, дзе жаўнеры СС і ўзброеная дружына юнакоў трымалі ганаровую варту, двухтысячны кандукт рушыў на могільнік. На чале — глыбоцкія адзінкі СБМ пад сваім сьцягам.

Пасьля рэлігійнага абраду над дамавінаю, з нябожчыкам разьвіталіся: прадстаўнік сп. Акруговага камісара, кіраўнік школьніцтва і арганізатар юнацкае самааховы сп. Вітвіцкі. Акруговы кіраўнік моладзі падправаднік А. Мацюшонак і лейтэнант беларускага СС Мялешка.

Шэф-праваднік сказаў кароткую прамову:

– *Дарагі сябра Уладзімер і вы ўсе сабраныя над ягонаю магілаю. Жаль нам Цябе і Твайго маладога жыцьця. Жаль нам, але мы ганарымся. Жыцьцё сваё Ты аддаў для Бацькаўшчыны, памятаючы на сваё юнацкае забавязаньне: Любі свой народ і родны край над усё на сьвеце і цэлае жыцьцё сваё ахвяруй на службу для ягонага шчасьця і дабрабыту.*

*Твая ахвярная сьмерць прывяла нас сюды сяньня, калі Твае забойцы сьвяткуюць сваё бандыцкае сьвята. Але гэтая Твая сьвежая магіла зьяўляецца сымбалем і зарукаю таго, што яны сьвяткуюць у вапошні раз, што ня нас а іх чакае магіла, што будзе жыць Беларусь.*

*Ты, сябра Уладзімер, выканаў свой абавязак, бо так загадвае юнацкі запавет: Помні, што шчасьце, гонар і слава Бацькаўшчыны вышэй і даражэй за жыцьцё і дабрабыт адзінкі. Ты памёр, але не загінуў дарма – Ты будзеш жыць, як вечны сымбаль, у нашых юнацкіх сэрцах: хто памірае для Бацькаўшчыны, той вечна жывець у народзе!*

*Хай-жа лёгкай Табе будзе родная беларуская зямелька, а над Тваёю магілаю вечную варту будзе несьці Саюз Беларускае Моладзі!*

Словамі: «*Дружыновы Уладзімер Жызьнеўскі аддаў жыцьцё для Бацькаўшчыны і будзе вечна жыць між нас*» шэф-праваднік закончыў жалобны абрад. На магіле, насыпанай рукамі сяброў, закрасавалі вянкі, зяленіва і краскі. Журботны, але спакойны лістападавы змрок акутаў цішынёю магілу гэроя.






Надмагільны помнік Уладзіміру Жызнеўскаму на Копцеўцы.

## Дружыновы Уладзімер Жызьнеўскі

*(Часопіс **«Жыве Беларусь!»**, №1, студзень 1944 г., стар. 9).*

7 лістапада 1943 г. адбыліся ў Глыбокім урачыстыя пахавіны 20-цігадовага гэроя, дружыновага Уладзімера Жызьнеўскага, які аддаў сваё жыцьцё ў змаганьні са сталінскімі бандытамі.

Уладзімер Жызьнеўскі нарадзіўся ў 1923 г. у вёсцы Шындзялішкі Докшыцкага павету ў сям'і беларускага селяніна. Пачатковую школу скончыў у роднай вёсцы, а потым з вялікімі цяжкасьцямі скончыў польскую сямёхгодку ў Докшыцах. Ня маючы магчымасьці вучыцца далей, застаўся пры бацьку і займаўся самаадукацыяй.

За войстрыя і праўдзівыя словы супроць Саветаў ён быў прызначаны на вываз у Сібір і толькі выпадкова застаўся пры жыцьці. Апошні год ён аддаўся нацыянальнай працы і працаваў у Порпліскай валаснай управе. Ягоным гарачым жаданьнем было аддацца працы СБМ і з гэтай мэтай ён прыяжджае ў Глыбокае, каб атрымаць інфармацыі і паехаць на курс малодшых кіраўнікоў у Альбэртын*.

Але тут, гарачы, як заўсёды, нянавісьцю да ворагаў Беларускага народу – сталінскіх валацугаў, едзе з юнацкай Самааховай у ваколіцу і на пасту атрымвае сьмяротную рану ад кулі бандыта. Назаўтра 5 лістапада, пасьля цяжкога змаганьня з болем ад раны у жывот, ён памірае, як малады гэрой.

Чэсьць ягонай сьветлай гэройскай памяці. Ягоны прыклад вядзе і нас на бясстрашнае змаганьне з усімі ворагамі нашага народу – за волю і будучыню Беларусі. Ягонае імя будзе запісанае на нашых змаганскіх сьцягох і павядзе нас да перамогі.

* Альбэртын – тады прадмесце Слоніма, цяпер у складзе г. Слоніма.



Глыбокае часоў нямецкай акупацыі. Прыкасцельны пляц. Праўдападобна, гэты здымак зроблены менавіта 7 лістапада 1943 года. Па цэнтры – два беларускія сцягі, у левым куце – нямецкі, за ім – партрэт А. Гітлера.

## «У нармальных умовах яны выраслі б на выдатных беларускіх дзеячоў»

*(Успаміны М. Рачыцкага з кнігі Алеся Вініцкага **«Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939-1951 гадох»**. Лёс Анджэлес, 1968. Стар. 42-43).*

**Заканчэньне на стар. 11**

**А. Ю. Рацьковіч,**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МрА.*

# Праходжанне асенне-зімовага перыяду

Напачатку ацяпляльнага перыяду ўсе спажыўцы цеплавой энергіі на працягу 10 сутак пасля ўключэння сістэм цеплазабеспячэння абавязаны правесці праверку работы абсталявання і першасную яго рэгулёўку, пад кантролем энергаснабжаючай арганізацыі. Спажыўцы цеплавой энергіі ў гэты перыяд правяраюць прагрэў стаякоў і прыбораў ацяплення. З мэтай выключэння «пераацяплення» ў перыяды рэзкіх падвышэнняў тэмпературы вонкавага паветра спажывец абавязаны забяспечыць аператыўнае рэгуляванне падачы цеплавой энергіі, уключаючы ручны рэжым. Павінен весціся кантроль за выкананнем тэмпературных графікаў у залежнасці ад тэмпературы вонкавага паветра і гідраўлічных рэжымаў па кожным цеплавым пункце. Спажывец абавязаны забяспечыць кругласутачны доступ персанала энергаснабжаючай арганізацыі і органаў Дзяржэнерганагляду на цеплавыя пункты для кантролю рэжыму цеплазабеспячэння. Павінен быць арганізаваны штодзённы здым паказанняў прыбораў уліку расходу цеплавой энергіі з рэгістрацыяй паказанняў у журнале ўліку.

Пры ўстойлівых сярэднясутачных тэмпературах вонкавага паветра ніжэй мінус 15 °С спажыўцы павінны арганізаваць кругласутачнае дзяжурства адказных работнікаў і забяспечыць іх сувязь з дзяжурным персаналам энергаснабжаючай арганізацыі (дыспетчарскай службай).

У сваю ж чаргу ў перыяд праходжання асенне-зімовага перыяду ўсе энергаснабжаючыя арганізацыі абавязаны:

- забяспечыць зададзеныя гідраўлічныя і тэмпературныя параметры ў спажыўцоў цеплавой энергіі на мяжы падзелу балансавай прыналежнасці цеплавых сетак;
- забяспечыць бяспечную эксплуатацыю абсталявання цеплакрыніц і цеплавых сетак;
- аператыўна праводзіць ліквідацыю аварыйных сітуацый, якія ўзнікаюць на абсталяванні цеплакрыніц, цеплавых сетках, вонкавых і ўнутраных трубаправодах газа- і водазабеспячэння, электразабеспячэння;
- пры працяглым адключэнні (абмежаванні) цеплазабеспячэння з-за аварыі на цеплавых сетках апавяшчаць спажыўца ў пазбяганне размарожвання сістэм цеплазабеспячэння.

Пры ўзнікненні аварыі на інжынерных сетках цепла-, вода-, газа- і электразабеспячэння, у выніку якіх адбыўся ці можа адбыцца перапынак у забеспячэнні цеплавой энергіяй спажыўцоў, арганізацыя, якая ліквідуе аварыю, абавязана ўстанавіць наяўнасць іншых інжынерных сетак у месцах правядзення земляных работ і, пры неабходнасці, выклікаць прадстаўнікоў арганізацый, што эксплуатуюць дадзеныя інжынерныя сеткі.

Выкліканы прадстаўнікі павінны прыбыць на месца аварыі і правядзення земляных работ у магчыма кароткі тэрмін, але не пазней 2 г з моманту абвяшчэння, а пры тэмпературы вонкавага паветра мінус 15 °С і ніжэй ці пры аварыйнай сітуацыі на сістэмах газаразмеркавання не пазней 1 г з моманту абвяшчэння.

Па ўсіх пытаннях, якія ўзнікаюць падчас праходжання асенне-зімовага перыяду, звяртацца за даведкамі ў цеплатэхнічную інспекцыю Глыбоцкага МрА па тэл.: 8-02156-2-87-04.

**А.І. Гігола,**
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

# За незаконную рэалізацыю, выкарыстанне і перавозку піратэхнічных вырабаў прадугледжана адміністрацыйная адказнасць

Піратэхнічныя рэчывы: рэчывы ці сумесі рэчываў, якія прызначаныя для вытворчасці эфекту ў выглядзе цяпла, святла, гуку, газу ці дыму ці іх камбінацыі ў выніку самападтрымалых экзатэрмічных хімічных рэакцый, якія праходзяць без дэтанацыі.

Аналіз становішча ў вобласці звароту піратэхнічных вырабаў сведчыць пра рэзкае павелічэнне іх наплыву ў рэспубліку ў перыяд падрыхтоўкі і правядзення калядных і навагодніх святаў.

Выкарыстанне піратэхнічных вырабаў, як правіла, выклікае негатыўную рэакцыю грамадзян, іх абгрунтаваныя звароты ў розныя інстанцыі пра прыняцце мер да вінаватых і падтрыманне належнага грамадскага парадку, прыводзіць да траўматызму, у першую чаргу, непаўналетніх.

Штогод знаходзяцца грамадзяне, якія ў абыход закона спрабуюць ажыццявіць распаўсюд на тэрыторыі рэспублікі піратэхнічных вырабаў сумніўнага паходжання.

Ажыццяўляецца незаконны ўвоз, распаўсюд, і як следства, выкарыстанне гэтай піратэхнікі нашымі грамадзянамі і, што самае страшнае, дзецьмі.

Трывожыць факт прыцягнення да распаўсюду піратэхнікі непаўналетніх, якіх нелегальныя гандляры небяспечнымі прадметамі выкарыстоўваюць для таго, каб самім сысці ад адказнасці за парушэнне ўсталяваных законам правіл.

З мэтай выяўлення і спынення фактаў незаконнай рэалізацыі піратэхнічных сродкаў, у тым ліку на рынках і ў іншых грамадскіх месцах, а таксама выключэння фактаў іх выкарыстання грамадзянамі органамі ўнутраных спраў ва ўзаемадзеянні з зацікаўленымі на пастаяннай аснове праводзіцца комплекс прафілактычных мерапрыемстваў.

У наш час за незаконную рэалізацыю, выкарыстанне і перавозку піратэхнічных вырабаў КоАП Рэспублікі Беларусь прадугледжана наступная адміністрацыйная адказнасць:

**Артыкул** 23.56. **Парушэнне заканадаўства аб пажарнай бяспецы.**

**1.** Парушэнне заканадаўства аб пажарнай бяспецы, у тым ліку абавязковых для выканання патрабаванняў тэхнічных нарматыўных прававых актаў сістэмы супрацьпажарнага нармавання і стандартызацыі, – цягне папярэджанне ці накладанне штрафу ў памеры да трыццаці базавых велічынь, а на юрыдычную асобу – папярэджанне ці накладанне штрафу да двухсот базавых велічынь.

**2.** Парушэнне правіл пажарнай бяспекі асобай, адказнай за іх выкананне, якое пацягнула ўзнікненне пажару, – цягне накладанне штрафу ў памеры ад трыццаці да пяцідзесяці базавых велічынь.

**Артыкул** 12.17. **Парушэнне правіл гандлю і аказання паслуг насельніцтву.**

**ч. 1.** Парушэнне правіл гандлю і аказання паслуг насельніцтву, за выключэннем здзяйснення парушэнняў, прадугледжаных часткай **6** дадзенага артыкула, – цягне накладанне штрафу ў памеры да дзесяці базавых велічынь.

**ч.4.** Набыццё, захоўванне, выкарыстанне ў вытворчасці, транспартаванне, рэалізацыя тавараў у парушэнне ўсталяванага заканадаўствам парадку (без наяўнасці патрабаваных у прадугледжаных заканадаўствам выпадках суправаджальных дакументаў, дакументаў, якія пацвярджаюць набыццё (паступленне) або водпуск тавараў для рэалізацыі, ці пры наяўнасці дакументаў, якія не адпавядаюць рэчаіснасці), а таксама рэалізацыя тавараў (выкананне работ, аказанне паслуг) у парушэнне забароны органаў Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь – цягнуць накладанне штрафу на індывідуальнага прадпрымальніка ці юрыдычную асобу ў памеры да пяцідзесяці базавых велічынь з канфіскацыяй тавараў ці без канфіскацыі.

**ч.8.** Рэалізацыя тавараў з рук, латкоў, калясак, аўтамабіляў, а таксама з выкарыстаннем іншых прыстасаванняў у месцах, забароненых заканадаўствам, – цягне папярэджанне ці накладанне штрафу ў памеры да трох базавых велічынь.

**Артыкул** 23.48. **Парушэнне правіл абыходжання з агнястрэльнай зброяй, выбуханебяспечнымі лёгкаўзгаральнымі, едкімі рэчывамі ці піратэхнічнымі вырабамі.**

**1.** Парушэнне правіл уліку, захоўвання, выкарыстання, перавозкі ці перасылкі агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў, выбуханебяспечных, лёгкаўзгаральных, едкіх рэчываў ці піратэхнічных вырабаў – цягне папярэджанне ці накладанне штрафу ў памеры да дзесяці базавых велічынь.

**2.** Тое ж дзеянне, здзейсненае паўторна на працягу аднаго года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за такое ж парушэнне, – цягне накладанне штрафу ў памеры ад дзесяці да дваццаці базавых велічынь з канфіскацыяй прадмета адміністрацыйнага правапарушэння ці без канфіскацыі або пазбаўленне адмысловага права з канфіскацыяй прадмета адміністрацыйнага правапарушэння ці без канфіскацыі.

**Артыкул** 18.29. **Парушэнне патрабаванняў заканадаўства ў вобласці перавозкі небяспечных грузаў, рэчываў і прадметаў.**

**1.** Парушэнне асобай, якая кіруе транспартным сродкам, прызначаным для перавозкі небяспечных грузаў, прадугледжаных заканадаўствам патрабаванняў бяспекі пры перавозцы небяспечных грузаў – цягне накладанне штрафу ў памеры ад пяці дзясятых да пяці базавых велічынь.

**2.** Парушэнне службовай асобай суб'екта перавозкі патрабаванняў бяспекі пры перавозцы небяспечных грузаў, прадугледжаных заканадаўствам – цягне накладанне штрафу ў памеры ад адной да дзесяці базавых велічынь.

**3.** Правоз у ручной паклажы ці здача ў багаж рэчываў і прадметаў, забароненых да перавозкі чыгуначным, паветраным, водным, аўтамабільным і іншымі тыпамі транспарта, а роўна здача ў камеру захоўвання транспартнай арганізацыі небяспечных рэчываў ці прадметаў – цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад пяці дзясятых да пяці базавых велічынь.

**Артыкул** 17.1 **Дробнае хуліганства.**

Нецэнзурная лаянка ў грамадскім месцы, абразлівае чаплянне да грамадзян і іншыя наўмысныя дзеянні, якія парушаюць грамадскі парадак, дзейнасць арганізацый ці спакой грамадзян і якія выяўляюцца ў відавочнай непавазе да грамадства, цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад дзвюх да трыццаці базавых велічынь ці адміністрацыйны арышт.

**Артыкул** 12.7 **ч.** 1[1] Прадпрымальніцкая дзейнасць, якая здзяйсняецца без дзяржаўнай рэгістрацыі або без дзяржаўнай рэгістрацыі і адмысловага дазволу (ліцэнзіі), калі такі адмысловы дазвол (ліцэнзія) абавязковая, калі ў гэтым дзеянні няма складу злачынства, – цягне накладанне штрафу ў памеры да ста базавых велічынь з канфіскацыяй прадметаў адміністрацыйнага правапарушэння ці без канфіскацыі. ***Пры нанясенні піратэхнічнымі вырабамі ў выніку іх ужывання шкоды жыццю і здароўю грамадзян настае крымінальная адказнасць па розных артыкулах, у залежнасці ад акалічнасці і ступені цяжару наступстваў.***

**Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь.**

**Артыкул** 299. **Парушэнне правіл абыходжання з агнястрэльнай зброяй, выбуханебяспечнымі, лёгкаўзгаральнымі, едкімі рэчывамі ці піратэхнічнымі вырабамі.**

**1.** Парушэнне правілаў уліку, захоўвання, выкарыстання, перавозкі ці перасылання агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў, выбуханебяспечных, лёгкаўзгаральных, едкіх рэчываў ці піратэхнічных вырабаў, якое пацягнула па неасцярожнасці прычыненне цяжкага ці меней цяжкага цялеснага пашкоджання або ўрону ў буйным памеры, – караецца выпраўленчымі працамі на тэрмін да двух гадоў, ці арыштам на тэрмін да трох месяцаў, ці абмежаваннем волі на тэрмін да двух гадоў, ці пазбаўленнем волі на той жа тэрмін з пазбаўленнем права займаць вызначаныя пасады ці займацца вызначанай дзейнасцю ці без пазбаўлення.

**2.** Тое ж дзеянне, якое пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека або прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання дзвюм ці больш асобам, – караецца пазбаўленнем волі на тэрмін ад двух да сямі гадоў з пазбаўленнем права займаць вызначаныя пасады ці займацца вызначанай дзейнасцю ці без пазбаўлення.

## *Віншаванкі*

*Ванду Францаўну Пачкоўскую*

**Віншуем з юбілеем!**

У тебя сегодня День рожденья,
И при этом юбилей.
Так прими же поздравленья
От родных тебе людей.
От души мы все желаем
Мира, солнца и тепла.
Ну, а главное, здоровья,
Счастья в жизни и добра.

***Муж, дзеці, унукі, праўнукі.***

## МНС інфармуе

**на 23.12.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1020;
Гібель людзей – 139, з іх 1 дзіця;
Урон – 3919,49 млн. руб.

**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 47;
Гібель людзей – 8, з іх дзяцей няма;
Урон – 308.4 млн. руб.

